*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!*
*ФРАНЦІШАК БАГУШЭВІЧ*



# Наша слова




Газета выходзіць з сакавіка 1990 года    № 49(383)    16 СНЕЖНЯ 1998 г.

## Прэзідэнту ўсіх беларусаў - 70



7 снежня споўнілася 70 гадоў з дня нараджэння прэзідэнта Згуртавання беларусаў свету "Бацькаўшчына", акадэміку АН Беларусі ішматлікіх іншых акадэмій **Радзіму Гарэцкаму.**

Кіраўніцтва ТБМ, сакратарыят, Рэспубліканская рада і чытачы газеты "Наша слова" віншуюць Радзіма Гаўрылавіча з юбілеем і жадаюць плёну дзеля Беларусі.

### Зварот
### Таварыства беларускай мовы імя Ф.Скарыны да ўсіх дэмакратычных сілаў Беларусі

Мы не можам маўкліваназіраць, як цынічна знішчаюцца цяперашнімі ўладамі нацыянальныя каштоўнасці, найперш — беларуская мова. Мова робіцца катэгорыяй палітычнай, і наступ на яе невыпадковы. Такое ўжо было ў Расейскай імперыі і ў сталінскія часы ў СССР. Мэты гэтых дзеянняў відавочныя — асіміляцыя беларускага этнасу і пазбаўленне яго перспектывы мець сваю сапраўды суверэнную дэмакратычную дзяржаву.

Вывядзенне з ужытку і зневажанне мовы карэннага этнасу Беларусі ляжаць у аснове афіцыйнай палітыкі апошніх чатырох гадоў. Фактычна знішчаецца беларускае школьніцтва ( колькасць першакласнікаў, якія навучаюцца ў Менску па-беларуску, скарацілася з 58,6% у 1994 г. да 4,8% у 1998г.); згорнута выданне беларускіх падручнікаў для сярэдніх спецыяльных і вышэйшых навучальных установ; у некалькі разоў скарацілася выданне мастацкай літаратуры на беларускай мове; у краіне няма ніводнай ВНУ, дзе выкладанне вялося б цалкам па-беларуску; беларускай мовай практычна не карыстаецца афіцыйнае чынавенства. Усё гэта дае падставы казаць пра свядомы этнацыд.

Дэмакратычныя сілы Беларусі не могуць не зразумець, што змаганне за мову — гэта змаганне за нашу свабоду. Менавіта мова і, як вынік, нацыянальная самасвядомасць могуць змабілізаваць народ і яго духоўныя сілы дзеля стваральнай працы. І толькі свядомы народ можа пабудаваць нармальную дзяржаўнасць з эфектыўнай эканомікай. Нацыя, якая страціла свой нацыянальны гонар, пазбаўлена будучыні і не можа разлічваць на аўтарытэт у свеце.

Таварыства беларускай мовы звяртаецца да ўсіх дэмакратычных партый і грамадскіх арганізацый, да ўсіх грамадзян Беларусі з заклікам: нашым абавязкам павінна стаць змаганне не толькі за сацыяльныя і палітычныя правы, але і за нацыянальнае разняволенне. Выратаванне роднай мовы — наш маральны і грамадзянскі абавязак. Быць палітыкам у дзяржаве, не ведаючы мовы тутульнай нацыі і не карыстаючыся ёю, — нонсенс. Да кіраўніцтва дзяржавай павінны прыйсці нацыянальна свядомыя людзі.

Час вымушае нас як мага хутчэй скансалідаваць намаганні на падвышэнні прэстыжу беларускай мовы — нашай нацыянальнай святыні, неацэннага скарбу для будучых пакаленняў.

Жыве мова народа — жыве Беларусь!

Прынята на паседжанні Рэспубліканскай Рады ТБМ 11.12.98г.

## Ахвяраванні на ТБМ

| | |
|---|---|
| Анатоль Хрэноўскі, Канада | 50 кан. дол. |
| Галіна Хрэноўская, Канада | 50 кан. дол. |
| Ларыса Хрэноўская, Канада | 10 кан. дол. |
| Рыгор Хрэноўскі, Канада | 25 кан. дол. |
| Крысціна Хрэноўская, Канада | 10 кан. дол. |
| Антон Хрэноўскі, Канада | 10 кан. дол. |
| Зміцер Будовіч, Канада | 5 кан. дол. |
| Валодзя Бельмач, Канада | 25 кан. дол. |
| Павел Парфёнаў, Канада | 10 кан. дол. |
| Юрка Акула, Канада | 5 кан. дол. |
| Алекс Васанскі, Канада | 40 кан. дол. |
| Юрка Мелевіч, Канада | 20 кан. дол. |
| Андрэй Дацюк, Канада | 15 кан. дол. |
| Суполка ТБМ "Зялёны Луг-7" | 120 000 руб. |
| Туміловіч Рыгор | 2 000 000 руб. |
| Гуркоў Алесь, г. Менск | 4 000 000 руб. |

## 6-ты з'езд ТБМ будзе ў красавіку 1999 года

11 снежня прайшло паседжанне Рэспубліканскай рады Таварыства Беларускай Мовы імя Францішка Скарыны. Рада заслухала справаздачу рэдактара газеты "Наша слова" і ў цэлым станоўча ацаніла вынікі працы рэдакцыі. Рэспубліканская рада ТБМ зліквідавала Рэдакцыйную раду газеты "Наша слова" і ўтварыла Рэдакцыйную калегію ў складзе: Людміла Дзіцэвіч (г. Менск), Язэп Палубятка (г. Масты), Алесь Петрашкевіч (г. Менск), Лілея Сазанавец (г. Ліда), Станіслаў Суднік (г. Ліда), Павел Сцяцко (г. Гародня), Алег Трусаў (г. Менск).

Рэспубліканская рада ТБМ прызначыла 6-ты з'езд ТБМ на другую палову красавіка 1998 года.

Рэспубліканская рада ТБМ прыняла ў калектыўныя сябры ТБМ Народны ўніверсітэт пры Беларускай перспектыве, а таксама моладзевае грамадскае аб'яднанне "Хлоя".

Рэспубліканская рада ТБМ абрала прафесара Алеся Петрашкевіча, вядомага беларускага драматурга адказным сакратаром ТБМ.

### Пастанова Рады ТБМ аб парадку абрання дэлегатаў і нормах прадстаўніцтва на чарговы з'езд ТБМ

1. Дэлегатам на з'езд ТБМ можа быць абраны сябра ТБМ, які мае сяброўскі білет, уплаціў абавязковыя складкі за 1998 год і стаіць на ўліку ў першаснай суполцы ТБМ па месцы працы ці жыхарства.

2. Выбары дэлегатаў на з'езд ТБМ праводзяцца толькі ў першасных суполках ТБМ.

3. Нормы прадстаўніцтва.

Ад першаснай суполкі колькасцю не менш 10 чалавек абіраецца 1 дэлегат.

Калі суполка налічвае ад 11 да 30 чалавек абіраецца 2 дэлегаты.

Калі колькасць сяброў у суполцы перавышае 30 чалавек абіраецца 3 дэлегаты.

Маламлікія суполкі могуць правесці агульны сход колькасцю не менеі 10 чалавек, каб абраць свайго дэлегата на з'езд.

4. У выбарах дэлегатаў на чарговы з'езд ТБМ удзельнічаюць сябры ТБМ, які ўплацілі абавязковыя сяброўскія складкі за 1998 год, памер якіх вызначаны адпаведнай пастановай Рады ТБМ.

5. Абранне дэлегатаў на чарговы з'езд праводзіцца ў тэрмін з 15 снежня 1998 года па 1 сакавіка 1999 года.

6. Пратаколы аб абранні дэлегатаў на чарговы з'езд ТБМ прадстаўляюцца ў сакратарыят ТБМ не пазней 10 сакавіка 1999 года.

7. Сакратарыят ТБМ рэгіструе дэлегатаў толькі ад тых суполак, якія зарэгістраваны і стаяць на ўліку ў сакратарыяце ТБМ альбо ў адпаведных раённых, гарадскіх ці абласных арганізацыях, уплацілі адпаведныя абавязковыя сяброўскія складкі за 1998 год і пералічылі на цэнтральны рахунак ТБМ суму ад сваіх фінансавых даходаў у памеры не менш як 25%.

8. Дэлегатамі на чарговы з'езд ТБМ з'яўляюцца ўсе сябры Рады, сакратарыята і рэдкалегіі газеты "Наша Слова".

Прынята 11 снежня 1998 года.

## Падпіска на "Наша слова" працягваецца

Сакратарыят ТБМ падпісаў на I квартал 1999 года 11 вясковых бібліятэк Аршанскага раёна, 11 бібліятэк Мазырскага раёна, 10 бібліятэк Петрыкаўскага раёна, 3 бібліятэкі Мсціслаўскага раёна.

Пятая суполка БНФ Ленінскага раёна г. Менска падпісала на нашу газету 20 вясковых бібліятэк Петрыкаўскага раёна Гомельскай вобласці.

Сябры Мазырскай раённай арганізацыі ТБМ падпісалі 20 асобнікаў газеты "Наша слова" для жыхароў горада і раёна.

Усе сябры суполкі ТБМ "Зялёны Луг-7" падпісалі па два асобнікі газеты "Наша слова". Для сябе і сябра.

У Камянецкім раёне мясцовыя прадпрымальнікі абавязаліся падпісаць на нашую газету ўсе школы раёна.

## Беларускія СМІ пра беларускую мову

*Агляд і каментары Язэпа Палубяткі*

... Дыктар Беларускага радыё Ніна Чайка вядзе перадачы на расейскай мове. А чаму?

Мы, беларусы, забываем сваю родную мову. Яны што, не ведаюць мовы беларускай? Хай вывучаюць... А то яны вядуць перадачы ў Беларускім радыё заўсёды па-расейску. Калі яны не ведаюць ці не хочуць весці перадачы ў дзяржаўным радыё па-беларуску, хай мяняюць працу.

**Жыхары г.Жодзіна**
**"Наша Ніва" №22**

*Беларуская мова ў вышэйшыя навучальныя ўстановы Беларусі дапускаецца выключна " па жаданні студэнтаў". А жаданне, як ясна кожнаму, можа быць ці не быць. Ды і адкуль яму з'явіцца, калі ў ВНУ моладзь прыходзіць* ***спрэс?*** *з рускамоўных школ ( аб чым вельмі дбайна клапоціцца тое ж Міністэрства адукацыі. Асобныя беларускамоўныя групы і плыні — зноў жа ясней яснага — могуць быць створаны, а могуць і не — з той жа самай вышэй указанай прычыны. Таксама, як і выкладаюцца асобныя дысцыпліны. Нават там, дзе існуюць у нашай вышэйшай школе нейкія астраўкі беларускасці, то гэта сапраўды астраўкі, якія патанаюць у разліваным рускамоўным моры.*

***Рэгіна Іваніцкая***
***"Народная Воля"***
***4.12.98г.***

... **Дык чаму мы ў сваіх пісаннях не карыстаемся мовай** гэтай зямлі, чаму не ёю гаворым для народа, якому належым? І ўпадалі ў роспач: а што ж карыстацца, калі ... калі школ на гэтай мове няма, кнігі, газеты і часопісы на гэтай мове не друкуюцца, справаводства на гэтай мове не вядзецца, ва ўстановах на ёй не гавораць, у арміі — таксама... Як жа выявіць сябе ў гэтай мове, як сцвердзіць сваё літаратурнае імя! Нават у такіх варунках яны гэтай мовы не цураліся, сёе - тое на ёй пісалі, давалі ёй высокую ацэнку ў сваіх артыкулах і лістах, прарочылі ёй будучыню, зрэшты, вельмі хвалебна, як вядома, гаварыў пра беларускую мову ў сваіх парыжскіх лекцыях і Адам Міцкевіч.

**Ніл Гілевіч**
**"Народная Воля"**
**28.11.98г.**

Каментар: вышэй Ніл Сымонавіч вядзе гутарку пра Яна Чачота і Яна Баршчэўскага.

*А каму не хапае слоўнага запасу для выказвання свайго глыбакадумства, дык вінавата не мова, а той, хто авалодаў ёю ў межах "трасянкі", кепскай раёнкі, хто не адчувае паэзіі слова. Не будзем далёка хадзіць. Успомніце паэтычнае слова "вырай", а ў перакладзе — "отлёт птиц в жаркие страны", назвы кветак, траў і дрэў, а беларускія месяцы — не паўтор імёнаў рымскім імператараў Аўгусатаў і Юліянаў, а самая маляўнічая і водарная палітра — студзень, люты, сакавік, красавік, травень, ліпень, жнівень, залацісты верасовы цвет, шумлівы лістапад — цэлая гама колераў і пахаў. Дык ці не злачынства выракацца такога моўнага "мужыцкага" багацця?*

***Сяргей Грахоўскі***
***"Народная Воля"***
***27.11.98г.***

## Слонім не забывае Ларысу Геніюш




Сяргей Чыгрын у Слоніме ў прыватным парадку выдаў паштоўку, прысвечаную да 15-годдзя з дня смерці вялікай беларускай паэтэсы і пакутніцы Ларысы Геніюш. Лішне, але трэба сказаць, што ўлады сёлета ні адным добрым словам не згадалі маці ўсіх сведамых беларусаў. Ім не да тога.

# Прыпамінанне каранёў

Апошняя чвэрць XYIII ст. сталася часам узнікнення ў Еўропе нацыянальных ідэялогіяў. У пачатку XIX ст. гэтая хваля дасягнула і сярэднееўрапейскі рэгіён, не прамінуўшы земляў былой Рэчы Паспалітай. Блукаючы па ейных руінах, польская ды апанячаная беларуская шляхта закладвала ў падмурак нацыянальнай ідэі сваю настальгію па страчанай дзяржаве. Так паўстала ідэя аднаўлення Рэчы Пспалітай, як унітарнай гіперпольскай дзяржавы. У звязку з гэтым ёсць цікавым пытанне аб этнічнай свядомасці беларускай шляхты.

Звычайна даследнікі падкрэсліваюць падвоенасць шляхецкай свядомасці. З аднаго боку гэта модус "Польшча - вялікая Айчына", з другога — "Малая радзіма Літва". Тут варта адцэніць неадназначнасць апошняга. Мяркуючы па ўсім, гэты модус меў у розных частках "шляхецкай расы" (вызначэнне Ул. Сыракомлі) адрознае разуменне. "Малая радзіма Літва" ўспрымалася кімсьці адно, як геаграфічны, можа быць у пэўнай ступені гістарычны панятак. Нейкая ж частка беларускай шляхты за гэтым паняткам бачыла "прыпамінанне каранёў" — вывучэнне гісторыі краю, старабеларускай пісьменнасці, пачатак этналагічнага даследвання той масы людства, якая нібы лучыла за борт гісторыі. Пра распашыранасць гэткага погляду ў першай чвэрці XIX ст. між беларускай шляхты гаварыць цяжка, бо пытанне дасюль застаецца малавывучаным. Верагоднымі пачынальнікамі "прыпамінання каранёў" можна назваць выкладчыкаў віленскага ўніверсітэта М. Бабробскага ды І. Даніловіча. Іхні ўплыў зазналі на сабе ўдзельнікі таемных студэнцкіх таварыстваў філаматаў, прамяністых, філарэтаў (1817 -1823г.г.).

У светаглядзе ўдзельнікаў філамацкага кола перапляліся ідэі асветніцтва і прыпамінання каранёў". Гэта азначала беспасярэдні зварот да паспалітага люду, а значыць — прарыў абалонкі "шляхецкай расы" і выхад на самага галоўнага носьбіта беларускай культуры. Такім чынам філаматы парвалі з старой шляхецкай завядзёнай лічыць сялянства за быдла, адмовіліся ад бескрытычнай ідалізацыі (ад слова "ідал") дзяржаўнага ладу Рэчы Паспалітай. Філаматы прыйшлі да жывой беларускай моўнай стыхіі, да беларускіх звычаяў і абрадаў. Адылі не трэба забываць, што ў іхняй свядомасці ўсё ж пераважаў модус "Польшча-вялікая Айчына". З гэтай прычыны адбывалася пераапрананне беларускіх сюжэтаў у польскую мову. Так з'явіліся многія творы А.Міцкевіча, Я.Чачота, Т.Зана. Але ўжо даўно вядома, што іхная польская мова была насычана беларускімі лексічнымі элементамі (гл. напр. арт. Ст. Станкевіча ў сёлетнім №5 часопіса "Спадчына"). Уласна беларускамоўныя вершы, з'яўляючыся ў філамацкім коле, звычайна не выходзілі за рукапісныя ды вусныя рамкі. Дайшло, як вядома, колькі вершаў Яна Чачота. Усё ж астатняе лічыцца страчаным ці, прынамсі, нязнойдзеным ...

Філамацкае кола ўяўляла з сябе апрычоную інтэлектуальную сістэму, у якой між іншым ставала месца фізыцы а лірыцы, думанніцтву а літаратуры. Ліквідацыя імперскімі ўладамі ў 1823 г. гэтай сістэмы абарвала эвалюцыю свядомасці сяброў да шырэйшага ўспрыняцця беларушчыны, да разумення сваёй беларускай тоеснасці. Разлучаныя нядоляй сябры не здолелі па асобку прыйсці да гэтага. Нават Я.Чачот да канца пэўна не ўсвядоміўся як беларус (крывіч).

Былыя філаматы засталіся ў палоне польскай ідэі, захаваўшы агулам прыхільнае стаўленне да беларушчыны. Беларускі агенчык не згас. Запачаткаваны рэчаток "прыпамінання каранёў" рухаўся далей ... Услухваючыся ў цішыню сучаснік філаматаў Ян Баршчэўскі пачынаў ткаць тэкст "Шляхціца Завальні" — беларускага "Уліса", які цягам XIX ст. будзе крышыць польскую свядомасць тутэйшай шляхты.

*Балахонаў Сяргей, г.Гомель.*

# Мікратапаніміка

Як вядома, адметнасць той ці іншай тэрыторыі вызначае тапаніміка: назвы населеных пунктаў, гарадоў, рэк, гор і г.д.

Тая ці іншая ўлада згодна сваіх палітычных інтарэсаў можа мяняць назвы населеных пунктаў: як скажам Вільню на Вільнюс; Санкт-Пецярбург -Петраград - Ленінград - Санкт-Пецярбург; вёска Свінашкі (Ваўкавыскі раён) на Зорная. Паколькі тапаніміка вызначае нацыянальную адметнасць краю, то такія перамены ёсць глумленне над нацыянальнай памяццю, спробы заваёўнікаў заявіць свае прэтэнзіі на гэтую тэрыторыю.

Калі спробы змяніць назвы больш-менш значных населеных пунктаў мелі поспех, то нягледзячы на ўсё гэта просты даследчык можа без асобых намаганняў даказаць, якому народу, нацыі ці народнасці належала тая ці іншая тэрыторыя.

Доказы гэтаму ўсяму — самыя простыя.

Звычайная — мікратапаніміка.

Тое асяроддзе, што асвоіў чалавек, не засатецца безыменным. Кожная сцяжынка, кожная рачулка, невялічкае ўзвышша, плёс, узлесак, лапік поля і іншая мясцовасць набывае свой назоў. Набывае назоў на той мове, на якой размаўляюць людзі, што жывуць тут. У ім (назве) сканцэнтравана не толькі геаграфічнае асаблівасць той ці іншай мясцовасці, але і пабытовае ўяўленне аб ёй і абавязкова выказанае на мове карэннага народа гэтай мясцовасці, без усялякіх палітычных памкненняў. Ну ні кому ж не захочацца нейкі луг называць Камуністычным , калі ён ужо мае назоў "Бабіная даліна". Як з'явілася тая ці іншая назва мясцовасці ў большасці сваёй застаецца загадкай. Але вось вымаўленне гэтае назвы і яе сэнс робіць гэтую мясцовасць адметнай.

Можа, скажам, назву "Церабежы" ці "Цыбулькаўшчына" вымаўляць расіянін ці паляк. З іх вуснаў гэтыя словы будуць гучаць як іншаземныя. Іншаземнымі яны будуць і для іх саміх. Дый поле "Дзялкі" у вымаўленні расіяніна, калі ён зробіць неправільна націск набудзе зусім іншы сэнс.

Мікратапаніміка як ніштo яскрава вызначае межы ўжывання той ці іншай мовы, мяжы пражывання той ці іншай нацыі або народнасці.

Антон Макей.

# СТУДЭНТЫ ЗБІРАЮЦЦА Ў КШЫЗОВА

З 7 - 13 лістапада 1998 года ў Кшызова (Польшча) адбыўся II Міжнародны студэнцкі семінар "Вышэйшая школа будучыні", які быў арганізаваны Mit-Ost e.V. (аб'яднаннем, што садзейнічае культурнаму абмену паміж краінамі Цэнтральнай і Усходняй Еўропы). Студэнты з Беларусі, Польшчы, Украіны, Эстоніі, Латвіі, Летувы і Расеі атрымалі выдатную магчымасць сумесна папрацаваць па двух накірунках: "Дэмакратыя" і "Журналістыка". "Дэмакраты" спрабавалі стварыць ідэальную мадэль дэмакратычнай сістэмы для свайго універсітэта і краіны. "Журналісты" абмяркоўвалі праблемы свабоды слова і цэнзуры, а таксама вучыліся ствараць газету, як тэарэтычна, так і практычна. Праграма была вельмі насычанай, але часу хапіла на ўсё: працу, экскурсіі па Вроцлаве і Кшызове, асабістыя знаёмствы. Цёплае надвор'е, клапатлівасць і ветлівасць арганізатараў спрыялі прыемным уражанням. Усе ад'язджалі дадому поўныя рашучасці змяніць жыццё да лепшага ў сваёй краіне. Хто хоча атрымаць такі ж запал у маляўнічай вёсачцы Кшызова ў наступным годзе? У вас ёсць такая магчымасць! Сардэчныя арганізатары будуць толькі рады дапамагчы студэнтам, якія ведаюць нямецкую мову (працоўную мову семінараў)! Увесну будзе праводзіцца конкурс, пра ўмовы якога мы абавязкова паведамім на старонках нашай газеты.

*Удзельніца семінару Таня Сапега, студэнтка Беларускага універсітэта культуры*



**Павел Сцяцко,**

*доктар філалагічных навук, прафесар, старшыня Гарадзенскай абласной рады ТБМ імя Францішка Скарыны*

# "З чужой моўнай практыкі..."

(Працяг. Пачатак у №№ 5-7, 12-15, 40-45)

*Шаноўнае спадарства, рэдакцыя газеты просіць прабачэння за тое, што мы паспяшаліся аб'явіць рубрыку "З чужой моўнай практыкі" закончанай. Прафесар Павел Сцяцко даслаў наступную серыю гэтага матэрыялу і мы з задавальненем працягваем гутарку пра норму беларускай мовы*

**Навучальня, вучэльня і вучылішча.**

Слова **вучылішча** не фіксавалі слоўнікі 20-х адраджэнскіх гадоў. Акадэмічныя перакладныя слоўнікі савецкага часу скрозь падаюць у абедзвюх частках гэтае слова: "**Училище** ср. **вучылішча**". З канца 80-х гадоў у друку сталі выкарыстоўвацца і іншыя словаўтваральныя структуры з гэтым каранём ***-вуч-***: ***вучэльня, навучальня.*** "З першага ліпеня ў абласным цэнтры адкрылася мастацкае ***вучылішча*** (былы філіял Мінскай мастацкай ***вучэльні***). У самастойнай ужо навучальнай установе адбыўся выпуск." (ЛіМ. 4.09. 1998. С.3) "У кожнай епархіі належала мецъ па адной духоўнай семінарыі, па 10 павятовых і 30 прыходскіх ***навучальняў***" (Т.Процька. Пакутнік за веру і бацькаўшчыну. Мн.,1996.С.16.). "У той сумнавядомы час ... дыплом замежнай ***вучэльні*** быў нечым ... сумніцельным". (Арсень Ліс. Цяжкая дарога свабоды. -Мн., 1994. С.175).

Слова ***вучэльня*** зафіксаваў В.Ластоўскі: "Школа лац., ням. школа, школіць; ***вучэльня***. (РК(б)С,с.751). Тэрмін ***навучальня*** адлюстраваны і ў спецыяльных даведніках. Напрыклад, у "Расейска-беларускім вайсковым слоўніку" С. Судніка і С.Чыслава (Менск, 1991, с.223) чытаем: "***Училище — навучальня***, ж.р., высшее военное ***училище*** — вышэйшая вайсковая ***навучальня***". І яно добра стасуецца тут з іншымі аднаструктурнымі словамі: ***учёба — навучанне***, ***учащийся — навучэнец, учебный — навучальны.***

Намінацыя ***навучальня*** беспасрэдна матывуецца словам ***навучацца*** і мае выразную словаўтваральную будову — утварэнне з суфіксам ***-льня***: ***навуча -льня***. Словы з гэтым фармантам абазначаюць месца для выканання дзеяння, названага утваральным словам: ***бяліць — бялільня, плавільня, прадзільня, пральня, радзільня, спальня, чытальня...*** (Беларуская граматыка. Т.І.Мн.,1985.С.245).

Замацаванню слова ***навучальня*** (як адэквату рас. ***училище***) спрыяе, як досыць выразная структура гэтага слова, так і шматлікае атачэнне з адэкватнаю асновую. Да таго ж, сама блізкі да лексомы ***навучальня*** яго апісальны адпаведнік — ***навучальная установа*** — мае нават адэкватную аснову ***навучальн-***. Гэта і вызначыла яго перавагу над словам ***вучылішча***, якое мае зусім празрыстую будову. У "Этымалагічным слоўніку беларускай мовы" (Т.2. Мн.,1980,С.240) слова ***вучылішча*** лічыцца утвораным ад незафіксаванае асновы ***ucil-***.

Новы акадэмічны "Тлумачальны слоўнік беларускай літаратурнай мовы" (Мн., 1996.) чамусьці не фіксуе гэтага натуральнага беларускага слова ***навучальня***, а толькі ***вучылішча***, прытым, цалкам перапісаўшы і вызначэнне семантыкі яго з выдання: С.И. Ожегов. Словарь русского языка (М.,1982,с.752): "***Училище***, -а, ср. Название некаторых низших и средних специальных, а также некаторых высших заведений) прил. училищный, -ая, -ае. І ў "Тлумачальным слоўніку" (с.119): " ***Вучылішча***, -а. Назва некаторых ніжэйшых, і сярэдніх спецыяльных, а таксама некаторых вышэйшых навучальных устаноў".

Слова ***вучэльня*** мае нязвыклую для беларускае мовы аснову ***вучэ-*** (на месцы ***вучы-***).

З трох найменняў навучальнай установы — ***навучальня, вучэльня, вучылішча*** — найбольш сістэмна апраўданым, зразумелым, натуральным, ёсць ***навучальня***, якое выразна ўсведамляецца як скарот двухслоўнага назову ***навучальная установа.***

**Дыялекты рэгіянальныя і тэрытарыяльныя.**

Да нядаўняга часу мовазнаўцы падзялялі дыялекты на тэрытарыяльныя і сацыяльныя. Тэрмін ***тэрытарыяльны*** ўтвораны ад ***тэрыторыя*** "зямельная прастора з пэўнымі межамі" (ТСБЛМ.1996.С.674). Апошнім часам актыўным у выкарыстанні стала слова ***рэгіён*** і яго вытворнае ***рэгіянальны***. Прыметнік ***рэгіянальны*** ў наш час набывае і значэнне, уласцівае слову ***дыялектны***: Напрыклад: "Акрамя розных моваў, існуюць таксама ***рэгіянальныя*** і ***сацыяльныя*** дыялекты ..." (Майкл Говард. Сучасная культурная антрапалогія. Навуковае выданне. Мн.,1995.С.105). Паняцці (і тэрміны) ***рэгіянальны*** і ***сацыяльны*** дыялекты добра стасуюцца з самым вызначэннем дыялекту: "Дыялект — афармлены моўны варыянт, які існуе ў пэўнай геаграфічнай ці сацыяльнай супольнасці або маўленчым кантэксце". (Тамсама, С. 431.). Мяркую, што тэрмін ***рэгіянальны*** дыялект (гаворка, мова) больш прыдатны для акрэслення моўнага варыянту, абмежаванага пэўным рэгіёнам.

**Сціслы, першасны сэнс слова — а не літаральны?**

Слова ***літаральны*** (сэнс слова) — штучная калька рас. ***буквальны*** (смысл слова). У "Русско белорусском словаре" 1993 года чытаем: "буквальный -літаральны" (т.І. С.129). "Тлумачальны слоўнік беларускай мовы" (Т.3.Мн., 1979.С.51) падае гэтае слова з наступнымі значэннямі: "***Літаральны***, -ая, -ае. 1. Дакладна адпавядаючы якому -н. тэксту, размове і пад.; даслоўны. 2. Дакладны; прамы, не пераносны. Літаральны сэнс". Новы "Тлумачальны слоўнік" (Мн., 1996.С.320) не падае штучна калькаванага "дакладна адпавядаючы" (гл. "Словарь русского языка в четырёх томах". Т.І.М., 1981. С.122), але змяшчае тую дэфініцыю, што і ў аднатомавым расейскім даведніку: С.И.Ожегов. Словарь русского языка, (М., 1982.С.58). Параўн.: "***Літаральны***, -ая, -ае. 1.Тое, што і ***даслоўны***. Літаральны пераклад. 2.***Дакладны, прамы, не пераносны***. Літаральны сэнс. (Рас. : Буквальный . !. То же, что дословный. Буквальный первод. 2. Точный, прямой, не переносный. В буквальном смысле слова").

Ненатуральнасць гэтага "***літаральны пераклад***" вынікае з таго, што ён не перадае сутнасці паняцця, бо ніяк не можа быць такога перакладу, каб рабілі толькі замену літараў у словах. Гэта ўжо транслітарацыя, а не пераклад. Так перакладаюцца ўласныя іншамоўныя намінацыі. (Warszawa-Варшава, London-Лондон). Таму натуральным выступае з першым значэннем слова ***даслоўны*** (а не штучная калька ***літаральны***). З другім значэннем у друку бачым (адэкват рас. буквальный "точный, прямой, не переносный") адмысловыя лексемы: ***першасны*** (сэнс) і ***сціслы***. Напрыклад: "Беларускім гучаннем, а галоўнае, ***першасным*** сэнсам, закладзеным у гэтае прозвішча-мянушку (Будзіловіч) — будзіць, яно паранейшаму імпанавала яму. (Арсень Ліс. Цяжкая дарога свабоды. -Мн.,1994. С.214). У ***сціслым*** сэнсе слова паняцце "сярэднія вякі" прымянальна толькі да тых абшараў, якія ведалі Адраджэнне, г.зн. адно да ўласна Еўропы. (Беларускі гістарычны агляд. Т.4.Менск, 1997.С.6).

*(Працяг у наступным нумары)*



# Генацыд беларускай мовы ў сталіцы Беларусі нарастае

**Мову родную нашу знішчаюць,**
**Улады гоняць яе адусюль,**
**У школах груба, нахабна піхаюць.**
**Колькі ж будзе ўсё гэта, дакуль?**

**1. Знішчэнне беларускай мовы працягваецца.**

У праўдзівасці такога сцвярджэння і выніклага з яго пытання, што пастаўлена эпіграфам, няцяжка пераканацца, калі ўважліва прааналізаваць лічбы прыведзенай тут табліцы. Як бачым, найбольшая ў параўнальных адносінах (у працэнтах) колькасць вучняў Менска на беларускай мове вучацца зараз у 7 -х класах 20,64%. Але яны пайшлі ў школу 7 гадоў назад, калі быў уздым беларускага адраджэння. Тады большая частка першых класаў была беларускамоўнай. Да сучаснага моманту іх колькасць зменшылася амаль у тры разы. Ад названай лічбы 7-х класаў у табліцы ўверх (да 1-хкласаў) і ўніз (Да 11 і 12 класаў) гэты паказчык хутка змяншаецца. Звернем увагу і на тое, што легась колькасць дзяцей, якія вучыліся ў першым класе на беларускай мове, складала 7,3 працэнта ад агульнай колькасці першакласнікаў. Можна сказаць, што хоць крыху лепшы паказчык падрыхтоўчых класаў. Аднак разглядаемыя лічбы адносяцца да стану на 1 верасня і маглі ўжо змяніцца толькі ў горшы бок. Апроч таго, непазбежнае змяншэнне лічбы 6,33% адбудзецца пры пераходзе гэтых дзяцей у першыя класы. Такім чынам вельмі і вельмі простымі разлікамі можна паказаць, за які невялікі кавалак часу ні адзін вучань Менска не будзе вучыцца па-беларуску. Пройдзе яшчэ не больш чым адно пакаленне і беларусаў у этнічных адносінах не стане наогул.

**2. Хто зараз у тым вінаваты і чаму мы павінны захавацца як этнас?**

Наш самы "мудры" і галоўны правадыр Аляксандр Лукашэнка не здольны разумець, што гэта будзе азначаць для агульначалавечай супольнасці. Палітыкі Расеі таксама не разумеюць таго і імкнуцца да знішчэння Беларусі. Да вядучых палітыкаў Свету зусім не даходзіць сутнасць сказанага па прычыне іх занятасці хутчэйшым праяданнем дабротаў Зямлі.

Таму праблему уратавання вырашаць трэба першнаперш самім беларусам. Для таго неабходна выразна ўсвядоміць, чаму адбываецца такі пагражальны абвал беларускамоўнасці ў самой Беларусі. І рашуча сказаць, што самая галоўная прычына зараз заключаецца ў кіраўнічых колах нашай рэспублікі. Яны не проста беларусафобы. Яны — цынічныя злачынцы ў гэтых адносінах. Бо робяць усё магчымае, каб беларуская мова зусім не выкарыстоўвалася, стала непатрэбнай у грамадстве, нацкоўваюць саміх беларусаў супраць сваёй роднай мовы, супраць самастойнай беларускай дзяржаўнасці.

Гэтую ісціну неабходна дапоўніць існаваннем велізарнай гістарычнай адказнасці самаго народа перад усім чалавецтвам за лёс свайго ўласнага этнасу са сваёй уласнай мовай, як адным з галоўных фактараў Богам закладзенай самабытнасці. Каб людзі зразумелі, што выпадзенне з агульнага ланцуга чалавечай супольнасці яго 10-мільённай беларускай складовай зменшыць магчымасці чалавецтва ў справах самаўдасканалення праз спрыяльнае ўзаемадзеянне тых рознасцяў, уласцівых кожнаму этнасу.

Адзначаныя ісціны з'яўляюцца асновай ідэі захавання, развіцця і самастойнага ганаровага ўваходжання беларускага этнасу ў цывілізаваны свет са сваёй мовай, са сваёй сукупнай душой.

**3. Чаму АН, дзяржаўныя СМІ і яднанне настаўнікаў не нацыянальна-беларускія і па-за моўныя?**

Але ж хто павінен рабіць аб'яднанне народа вакол гэтай ідэі? У цывілізаваным (у лепшым разуменні гэтага слова) грамадстве, як само сабой разумеецца, названае — адна з першасных задач нацыянальнай акадэміі навук. Бо калі няма нацыі, то не можа быць і нацыянальнай АН. І толькі на аснове захавання нацыі магчымы даследванні на аснове прынцыпу: праз нацыянальнае да агульначалавечага, ад агульначалавечага — да нацыянальнага. Аднак пры відавочнасці сказанага паўстае пытанне: а ці ёсць у нас у цэлым (а не ўасобных праявах) акадэмія навук наогул, а тым больш нацыянальная? Ці заўважыла б наша грамадства раптоўнае знікненне АН Беларусі? А можа гэта сапраўды (па большасці) узнікшае на аснове камунасавецкіх дагматаў калянавуковае стварэнне "антыбеларускай, антынацыянальнай" сутнасці ? ("Народная воля" ад 22.7.1998г.). Калі так, то можа яна будзе ўхваляць любую мову і любую ўладу за харч, які самастойна зарабіць у рэспубліцы (а тым больш - у свеце) не здольна?

Пытанні суровыя. Але ж настаў час іх выказаць. Таму што навісла рэальная пагроза існаванню беларусаў у этнічных адносінах, пагроза знікнення ўжо назаўжды самастойнай беларускай дзяржаўнасці. Адпаведна я загадзя прашу прабачэння ў тых сапраўдных вучоных АН РБ, якія плённа працуюць і з'яўляюцца сапраўднымі прадстаўнікамі лепшай часткі нацыянальнай беларускай эліты.

Немагчыма таксама ўявіць, што змагацца за беларускую мову выйдуць шчырымі радамі прадстаўнікі дзяржаўных сродкаў масавай інфармацыі. Не! Яны будуць у іншым натоўпе, або сярод чужародцаў (па Багдановічу), або сярод карысна чакаючых. Бо большасць з іх выхавана паводле савецкага прадажнага прынцыпу: адно бачу і чую, другое разумею, трэцяе раблю, чацвёртае даю ў тлумачэнне, вядома ж — з карысцю для сябе.

Калі паклікаць у шэрагі змагароў за беларускую мову і самастойную дзяржаўнасць нашых пісьменнікаў, то ў адкрытую выступяць толькі адзінкі тыпу Ніла Гілевіча, Рыгора Барадуліна, Вольгі Іпатавай, Ліды Савік, Генаддзя Бураўкіна. Астатнія ж прамаўчаць, ці будуць паказваць кулакі ў кішэні — ды і то на ўласнай кухні.

Настаўнікі на сваім першым усебеларускім з'ездзе ў мінулым годзе згуртавана паказалі, што яны могуць спакойна прайсці міма галоўных праблем Беларусі і нават (не заўважыўшы іх) стоячы вітаць галоўных беларусафобаў. (Гл. "Народную волю за 1977г.).

**4. Беларускамоўнасць, прафсаюзы і магчымыя новыя ўлады нашай Рэспублікі.**

Як відаць з друку, беларускамоўныя пытанні і звязаныя з імі праблемы самастойнай беларускай дзяржаўнасці не турбуюць прафсаюзных лідэраў (гл.іх "открытое письмо ... уважаемому президенту" у "Народнай волі" ад 11.11.98г.).

Чамусьці толькі на "могучем русском языке" выступае ў друку прэтэндэнт на пасаду прэзідэнта Генадзь Карпенка. У апошніх яго галоўных выказваннях ("Народная воля" ад 3.9.1998г.) сустракаюцца заблытаннасці, незразумелая ўвага "всякого рода ... разжиганиям противостояния между нашими странами (Беларуссю і Расеяй - аўт.)", чаго ў Беларусі ніколі і не было. Каторы раз ён празмерную цікавасць выказвае "насчет рюмочки" (Тая ж "Народная Воля"). Ёсць у яго сур'ёзныя заблытаннасці і ў выказваннях "о желании нового поколения жить иначе" і ў закліку "поддержать его ("поколения"-аўт) выбор" (Там жа). Але ж, між іншым, "пад"жить иначе", "обеспечено" усё часцей і часцей разумеецца пераход на шлях бездухоўнасці, бяздумнага спажывання таго, што не зроблена гэтымі спажыўцамі, на шлях дабывання асалоды любым, нават, злачынным метадам. Таму азначаным спажыўцам усё роўна, пры якой уладзе жыць, якой мовай карыстацца. Менавіта таму алкагалізм, злачыннасць, вяртанне да жывёлінага стану катастрафічна нарастаюць. Значыць кожнае "дзіця" павінна ведаць, што "жить иначе" чым па законах, заснаваных на прынцыпах патрабаванняў Сукупнага Розуму і Боскага гуманізму, клапату аб станоўчым сучасным (у яго агульначалавечым сэнсе) і стварэнні ўмоў для лепшага будучага ў цывілізаваным грамадстве немагчыма. Бо ў супрацьлеглым выпадку чалавецтва проста самазнішчыцца.

Наўпрост ці ўскосна сустракаюцца ў шматлікіх выказваннях Генадзя Карпенкі элементы быццам бы супрацьпастаўленняў пенсіянераў (як ён кажа), якія быццам бы глядзяць назад, у мінулае і падтрымліваюць ва ўсім Лукашэнку, і новым пакаленнем, якое (на яго думку) скіравана толькі ў ззяючае будучае. А між іншым асноўнымі думкавымі барацьбітамі, ідэйнымі носьбітамі неўспрыяцця сучаснага рэжыму, змагарамі за зберажэнне асноў беларускага этнасу з яго мовай і іншымі самабытнасцямі з'яўляюцца як раз людзі сталага, мудрага ўзросту, звязаныя нацыянальнымі і жыццёвымі каранямі з Беларуссю. Усё адзначае насцярожвае. І таму яго словы "как сделать белорусский язык па-настоящему родным для каждого белоруса" (з той жа НВ) насцярожваюць, бо здаюцца павярхоўнымі. Таму што (як кажуць у простым народзе) і дурню ясна, што пачынаць гэта "делать" неабходна з самога сябе паўсюды: і ў палітычных прамовах, і ў Менску, і ў Маскве, і вусна, і ў артыкулах карыстацца толькі беларускай мовай. Пры тым — з павагай да яе, як гэта робіць у адносінах да ўкраінскай мовы Прэзідэнт Кучма. Каб жа ведалі, што ёсць і павінна жыць наша мова — у якасці раўнапраўнай з іншымі. Прыстасаванне ж у гэтай справе да апанентаў, спасылка на неабходнасць забяспечыць доступ да сваіх думак праз "великий и могучий язык" нічога апроч шкоды не прынесць беларускасці наогул, а не толькі беларускай мове. Дарэчыназванай хваробай хварэюць і барацьбіты за Беларусь без беларускасці па тыпу Ганчара, Лябедзькі і інш.

У далейшых разважаннях аб беларускай мове ўлічым і не названыя тут неакрэсленасці ў пазіцыі Г.Карпенка і яго паплечнікаў адносна асноўных праблем Беларусі і іх сувязі з мовай. Па вядомых прычынах не будзем закранаць тут ролю рабочых і сялян у справах укаранення беларускасці ў грамадстве.

**5. Надзея на ТБМ.**

Вышэй адзначанае дае падставы сцвярджаць, што галоўнай яднаючай сілай па ўратаванню беларускай мовы ў Беларусі і па вырашэнню іншых праблем, звязанных непарыўна з ёю, з'яўляецца ТАВАРЫСТВА БЕЛАРУСКАЙ МОВЫ імя ФРАНЦІШКА СКАРЫНЫ, якое абапіраецца ў сваёй дзейнасці на дапамогу БНФ. Бо гэта арганізацыя аб'яднoўвае на дабраахвотных пачатках найбольш свядомую і адданую справам беларускасці, бескарысную і ахвярную частку беларускага грамадства ад акадэмікаў, настаўнікаў, інжынераў і журналістаў да простых рабочых. Бо толькі яна ідзе ў масы з адпаведнымі тлумачэннямі, стаіць у такіх жа пікетах, змагаецца за кожнага беларускамоўнага вучня і яго бацькоў, за кожнага аддадзенага гэтай справе студэнта, жыхара Мінска, выказвае неабходную праўду беларускафобнай уладзе, расказвае аб тым усяму свету. Таму ў час наведвання 11.11.1998г. царквы ў г.Барысаве я звярнуўся са сваімі думкамі да Бога, як ствaральніка этнасаў і іх моў. Я папрасіў яго дапамагчы ТБМ здзейсніць свае святыя намаганні. А каб Бог лепш пачуў маю просьбу, я паставіў свечку. І пакуль яна прыгожа і роўна гарэла, я звярнуўся вобразна да ўсёй краіны, да ўсіх грамадзян Беларусі, каб яны дапамагалі Богу. У працяг слоў эпіграфа мая просьба сфармулявана так:

Маці любуя, Маці-Краіна
Я прашу: зразумей гэты боль
І за мову тваю твайму сыну
Больш рашуча змагацца дазволь!

Кінь ты вокліч Літоўскай Пагоні,
Каб кранеў ён сумленне людзей,
Каб вярталі назад тыя коні
І няслі нам здзяйсненне надзей!

(Гл.гімн "Пагоня" М.Багдановіча)

**Лічбы асноўных колькасных паказчыкаў вучнёўскага складу школ г.Менска з улікам беларускамоўнага навучання ў 1998 - 1999 навучальным годзе. (па дадзеных на 13.Х.1998г).**

| Класы адукацыі Кл | Агульная колькасць класаў Ак | Агульная колькасць вучняў у іх А б | Агульная колькасць другагоднікаў А д | З Ав -вучацца па беларуску А б | А б-у працэнтах А з Аб% | З Ав колькасць дзяўчынак Кд |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 |
| П-падрыхтоўчыя класы ўсіх відаў | 579 | 12400 | 3 | 785 | 6,33 | 6110 |
| 1п-першыя класы ўсіх відаў | 675 | 17143 | 111 | 834 | 4,86 | 8296 |
| 2 | 871 | 23043 | 76 | 1584 | 6,87 | 11010 |
| 3 | 932 | 24664 | 57 | 2438 | 9,88 | 11877 |
| 4 | 965 | 25571 | 46 | 3789 | 14,82 | 12355 |
| **Сума(1-4)** | **4022** | **102821** | **303** | **9430** | | **49648** |
| 5 | 928 | 24884 | 67 | 3775 | 15,17 | 11971 |
| 6 | 898 | 24478 | 80 | 4719 | 19,28 | 11777 |
| 7 | 900 | 24359 | 128 | 5027 | 20,64 | 11881 |
| 8 | 935 | 25078 | 148 | 3187 | 12,71 | 12176 |
| 9 | 995 | 26538 | 79 | 2481 | 9,35 | 12944 |
| **Сума(5-9)** | **4656** | **125337** | **500** | **19189** | | **60749** |
| 10 | 629 | 15900 | 102 | 453 | 2,84 | 8914 |
| 11 | 565 | 13382 | 7 | 108 | 0,81 | 7754 |
| 12 | 8 | 145 | - | - | - | 109 |
| **Сума(10-12)** | **1202** | **29427** | **109** | **561** | | **16777** |
| **Сума па ўсіх класах горада** | **9880** | **257585** | **912** | **29180** | **11,33** | **127174** |

**Тлумачэнні да табліцы:**

— Яна састаўлена па матэрыялах гарадскога аддзела адукацыі г.Менска;

— Зыходныя лічбы (некалькі супярэчлівыя) узяты з падлікаў інспектарамі Новікавай Г.Д. і Зубко Н.В., зацверджаных загадчыкам аддзела адукацыі г.Менска Пятровічам Г.А.;

— Не гледзячы на тое, што стандартныя бланкі Міністэрства статыстыкі і аналізу пададзены на беларускай мове, справаздача аддзела адукацыі г.Менска вядзецца на расейскай мове;

— Лагічная сістэма разгляданых справаздач пакідае жадаць многага лепшага;

— Апроч пануючай расейскай і прыгнечанай беларускай моў у навучальным працэсе школ г.Мінска выкарыстоўваюцца: яўрэйская (у 1-й школе, як прадмет, факультатыўна, у гуртках і г.д.) 304 вучнямі (22-у падрыхт.класе; 27-у 1-м; 30-у 2-м; 37-у 3-м; 26-у 4-м; 27-у 5-м; 23-у 6-м; 22-у 7-м; 23-у 8-м; 22-у 9-м" 29-у 10-м і 16- у 11-м) і польская 65 вучнямі ( 9- у падрыхт.класе; 11 -у 1-м; 10 -у 2-м; 6-у 3-м; 15 -у 4-м і 14 -у 5-м);

— Калонка 4 з Ад насцярожвае, бо звычайна на другі год пакідаюцца вучні з практычна нулявымі ведамі або такім узроўням агульнага развіцця;

— Калонка 7 з Кд паказвае, што магчымасці паступлення дзяўчынак у ВНУ большыя.

*Старшыня Менскай гарадской рады ТБМ*
*імя Францішка Скарыны*
*прафесар Аляксей Саламонаў.*

